

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№496 Травень 2004 г. Год выданьня 55

## Рашэньні Рады Эўропы

Парляманцкая Асамблея Рады Эўропы (ПАРЭ) 28 красавіка прыняла рэкамэндацыю №1657, якая прапануе Камітэту міністраў - выканаўчаму органу Рады Эўропы - запатрабаваць ад беларускіх уладаў распачаць сапраўды незалежнае расьсьледаваньне зьнікненьняў палітыкаў кампэтэнтнымі органамі, пасьля адстаўкі цяперашняга генэральнага пракурора Віктара Шэймана, якога абвінавачваюць у арганізацыі зьнікненьняў, і цалкам інфармаваць сем'і зьніклых аб прагрэсе і выніках сьледства".

Дакумэнт рэкамэндуе патрабаваць распачаць крымінальнае расьсьледаваньне супраць былога дзяржсакратара Савету бясьпекі В. Шэймана, экс-міністра ўнутраных справаў (цяпер міністра спорту і турызму) Ю. Сівакова ды афіцэра З. Паўлічэнкі, якія могуць быць датычныя да зьнікненьняў, а таксама іншых чыноўнікаў, якія маглі перашкодзіць правасудзьдзю шляхам фальсыфікацыі, прыхоўваньня або ўціску сьведчаньняў і сьведкаў.

Другі пункт рэкамэндацыяў прапануе Камітэту міністраў спыніць удзел Беларусі ў дзейнасьці Рады Эўропы, а таксама кантакты паміж Радаю Эўропы й беларускім урадам - да таго часу, пакуль ня будзе зроблены істотны прагрэс у расьследаваньнях. Адначасова ПАРЭ заклікала супрацоўнічаць з грамадзянскай супольнасьцю ў Беларусі.

Трэці пункт рэкамэндацыяў запрашае дзяржавы, якія ўваходзяць у Раду Эўропы, ды краіны са статусам назіральніка ўжыць палітычны ціск (улучна з санкцыямі) на беларускі ўрад, каб пасласьць яму моцны сыгнал, што беспакаранасьць гвалтоўных зьнікненьняў ёсьць нецярпімаю для міжнароднай супольнасьці.

ПАРЭ таксама запрашае "судовыя улады краінаў, чые законы прадугледжваюць міжнародную юрысдыкцыю іх нацыянальных судоў, распачаць працэдуры супраць некаторых беларускіх чыноўнікаў за магчымае забойства паводле палітычных прычын аднаго ці больш чалавек зь ліку чатырох зьніклых асобаў".

Галоўныя палажэньні рэкамэндацыі №1657 увайшлі ў рэзалюцыю №1371, якая таксама выказвае падзяку краінам, якія далі палітычны прытулак былым беларускім чыноўнікам, якія ахвяравалі сваёй кар'ерай дзеля ўсталяваньня праўды.

ПАРЭ таксама заклікае парлямэнт Беларусі стварыць парлямэнцкую камісію ў справе расьсьледаваньня з адпаведнымі рэсурсамі для гэтага ды зазначае, што ня лічыць мэтазгодным пераглядаць прыпыненьне статусу "адмыслова запрошанага" ў ПАРЭ для беларускага парлямэнту, пакуль ня будзе істотнага прагрэсу ў справах зьніклых.

Таксама 28 красавіка на сэсіі ПАРЭ была ўхваленая рэзалюцыя 1372 "Перасьлед прэсы ў Рэспубліцы Беларусь" з адпаведнымі рэкамэндацыямі.

*Радыё Свабода*

## Мы пераможам!

Зраніцы каля будынку ПАРЭ ў Страсбуры пад бела-чырвона-белымі сьцягамі, якія сымбалізуюць вольную Беларусь, сябрамі Беларускага Эўрапейскага Задзіночаньня быў зладжаны пікет. Там-жа была арганізаваная раздача кнігаў „We want to know the truth!," (Мы жадаем ведаць праўду!), якая распавядае пра зьнікненьне праціўнікаў рэжыму Лукашэнкі. У выніку акцыі, больш за чатырыста эўрадэпутатаў сталі ўладальнікамі кнігі, інфармацыя зь якой безумоўна станоўча паўплывала на прынясцьце рэзалюцыяў.

У пікеце прынялі актыўны ўдзел жонкі зьніклых Ірына Красоўская і Сьвятлана Завадзская (на здымку другая і трэйцяя справа).

Абноўленная Эўропа не жадае бачыць у сваіх шэрагах пост-комуністычны дыктатарскі рэжым Лукашэнкі, і гэта было выразна бачна на паседжаньні Рады ПАРЭ, куды дэпутаты запрасілі пікетоўцаў.

Вядучыя эўрапейская сродкі масавой інфармацыі, камэнтуючы прайшоўшую акцыю і прынятую рэзалюцыю ПАРЭ, адзначылі іх гісторычнае значэньне для лёсу Беларусі.

Асабліва запомніліся шчырыя словы дэпутаткі Сейму Латвіі, якая сказала: „Трымайцеся, мы перамаглі - і вы пераможаце!"

*Аркадзь ВАСІЛЕЎСКІ - прэссакратар БЭЗ*
*Сяргей АКСІМОВІЧ - міжнародныя стасункі*



## У ААН паказалі фільм "Чарнобыльскае сэрца"

Сёлетнія васемнаццатыя ўгодкі чарнобыльскай катастрофы былі адзначаныя ў ААН незвычайнай падзеяй - паказам 27 красавіка новага дакумэнтальнага фільму "Чарнобыльскае сэрца". (Выразам "чарнобыльскае сэрца" характарызуецца прадзіраўленае радыяцыяй дзіцячае сэрца ахвяры Чарнобыля.) Фільм адзначаны сёлета прэстыжнай прэміяй Оскара ў катэгорыі кароткамэтражных дакумэнтальных кінастужак. Зь фільмам гэтым, зробленым коштам амэрыканскай кампаніі HBO (эйч-бі-оў), шырокая публіка яшчэ не знаёмая. Паказ яго на тэлебачаньні адбудзецца толькі ўлетку сёлета. Але HBO, пасьля вялікіх намаганьняў беларускай місіі ў ААН у супрацоўніцтве зь місіямі Расейскай Фэдэрацыі й Украіны, згадзілася даць дазвол на прагляд фільму ў ААН абмежанай колькасьці гледачоў у сувязі з угодкамі ядзернага выбуху ў Чарнобылі. Вялікая заля Генэральнай Асамблеі ААН была амаль запоўненая гледачамі, сярод якіх знаходзілася шмат запрошаных прадстаўнікоў беларускай дыяспары Нью-Ёрку й ваколіцаў.

Перад паказам фільму коратка прамаўлялі прадстаўнікі місіяў у ААН: беларускі (др. Алег Іваноў), расейскі й украінскі. Яны адзначылі маштабнасьць шкоды, нанесенай чарнобыльскаю катастрофаю, ды паслабленьне міжнароднай увагі да ейных зьнішчальных вынікаў. Коратка прамовіла таксама кінарэжысэрка "Чарнобыльскага сэрца" амэрыканка Марыяна Дэліо.

Фільм востра перадае неймаверную жудасьць катастрофы, якая ў Беларусі асабліва адбілася на дзецях - будучых пакаленьнях нацыі. Апавядальніцай праз увесь фільм выступае спагадлівая і самаахвярная сп-ня Ады Роўч, ірляндская заснавальніца й выканаўчы дырэктар Чарнобыльскай праграмы дапамогі дзецям. Яна гадамі ўжо займаецца справаю гуманітарнай дапамогі беларускім чарнобыльцам, асабліва дзецям. Аповед Ады Роўч фактуальны, сьціслы. Пытаньні да лекароў і бацькоў хворых дзяцей паказваюць асобу, якая глыбака спачувае бядзе і добра ведае сытуацыю.

Дзея пачынаецца ад наведаньня самога чарнобыльскага саркафагу, былой атамнай электроўні, дзейнасьць якой спыненая, але радыяцыйная пагроза ад якой усё яшчэ застаецца рэальнаю. Пасьля жахлівых кадраў зь ядзернай зоны, галоўна на поўнач ад Чарнобыля, г. зн. у паўдзённых раёнах Гомельшчыны, увага засяроджаецца на беларускіх дзецях у шпіталёх і сірочых прытулках. Сцэны занядбаных вёсак, бядотных сірочых прытулкаў і прымітыўных шпіталёў суправаджаюцца на цітрах панурай статыстыкай, якая паказвае на маштабнасьць эканамічнай і людзкой катастрофы. Перад вачыма разгортаецца бядотны стан беларускай мэдыцыны, роспач бацькоў хворых дзяцей, бездапаможнасьць лекароў, кашмарныя сцэны з малымі пацыентамі ў перапоўненых псыхіятрычных і шпітальных палатах ды сірочых прытулках. У шмат каго з гледчоў гэтых жудасных малюнкаў сьціскалася ад спачуваньня горла й выступалі сьлёзы.

Пасьля прагляду фільму прамаўляў адзін зь ягоных пэрсанажаў, амэрыканскі доктар-кардыёляг Уільям М. Новік. Прафэсар унівэрсытэту ў Мэмфісе (штат Тэнэсі), заснавальнік і мэдычны дырэктар Міжнароднай фундацыі лячэньня хворых на сэрца дзяцей др. Новік паказаны ў фільме ў часе апэрацыі дзіцячага дзіравага ("чарнобыльскага") сэрца. Сцэна вельмі кранальная, калі расчуленая маці дзяўчынкі, якой ён выратаваў жыцьцё, цалуе хірургу рукі й не знаходзіць слоў удзячнасьці. Выступленьне др. Новіка, ягонае спачувальнае разуменьне чарнобыльскай трагедыі слухачы ўзнагародзілі гарачымі авацыямі.

Два прадстаўнікі сакратарыяту ААН, якія таксама прамаўлялі на вечары, запэўнілі аўдыторыю, што справа дапамогі Беларусі, Украіне й Расеі ў ліквідацыі вынікаў Чарнобыля застаецца на парадку дня ААН. Пытаньне Чарнобыля пераведзенае цяпер з гуманітарнага камітэту ААН у камітэт па адбудове, які, дарэчы, мае ў Менску сваё прадстаўніцтва.

Заключнае слова на вечары сказала сп-ня Ады Роўч. Гэта быў гарачы заклік падтрымваць надзею на дапамогу чарнобыльцам - надзею на зьмяншэньне радыяцыі, на здаровых дзяцей, на нармальнае жыцьцё. Сп-ня Роўч атрымала ад аўдыторыі таксама заслужаную авацыю .

Беларуская місія пры ААН шмат паспрыяла таму, каб фільм "Чарнобыльскае сэрца", дзея якога ў асноўным адбываецца ў Беларусі, быў зьняты, і будзе спрыяць далей, каб ён пашыраўся, прыцягваючы гэтым увагу да біялягічнай, і нават генэтычнай, пагрозы вялікай часткі жыхарства краіны.

Паводле кіраўніка беларускай місіі др. Алега Іванова, вялікую дапамогу Беларусі ў змаганьні з наступствамі чарнобыльскай катастрофы аказвае Ірляндыя - большую, чым дапамога ўсяе рэшты эўрапейскіх краінаў разам узятых.

*Янка ЗАПРУДНІК*

# Пікет у Бостане

Беларуская моладзь, бальшынёю сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня правялі пікет у цэнтры Бостану з нагоды гадавіны прыняцьця Рэзалюцыі ААН аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі. Ідэя правядзеньня такой акцыі ўзьнікла не выпадкова. За год, які прайшоў ад часу прыняцьця рэзалюцыі, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ня толькі не палепшылася, а, наадварот, стала шмат горшаю. Беларуская прававая база папоўнілася заканадаўчымі актамі, якія абмяжоўваюць правы й свабоды беларускіх грамадзянаў яшчэ больш і паявілічваюць паўнамоцтвы розных дзяржаўных структураў і ўстановаў. У краіне да сёньня няма цывілізаванага інстытуту аховы правоў чалавека. Усё гэта падштурхнула правесці акцыю пратэсту, каб яшчэ раз зьвярнуць увагу міжнародных арганізацыяў на тыя нэгатыўныя працэсы, якія маюць месца ў Беларусі, пазнаёміць іх з "Актам аб дэмакратыі ў Беларусі", які распрацоўваецца зараз у Кангрэсе ЗША.

Акцыя прайшла ў Комман парку насупраць галоўнай дзяржаўнай установы гораду - сіці голлу. Удзельнікі акцыі сталі шыхтом уздоўж адной з сьцяжынак парку з плякатамі й фотаздымкамі зьнікшых ведамых палітычных дзеячоў Беларусі. Гэтыя зьнікненьні зьяўляюцца неабвержным доказам таго бяспраў'я, якое пануе на нашай Бацькаўшчыне. Спачатку арганізатары акцыі, Крупнік Вольга і Мычко Яўген выступілі перад прысутнымі з кароткімі паведамленьнямі аб падзеях у Беларусі й аб мэце акцыі. Затым пікетоўцы скандавалі: "Жыве Беларусь" і "Democracy - yes, Lukashenko - no". Пасьля гэтага акцыя працягнулася раздачаю ўлётак сярод гуляючых у парку з заклікам напісаць ліст кангрэсмэну свайго штату, каб той падтрымаў "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2004" пры галасаваньні ў Кангрэсе ЗША. Гэта было асабліва актуальным для Масачусэтса, таму што яшчэ ніводны з кангрэсменаў штата ня стаў су-спонсарам гэтага акту.

Акцыя працягвалася каля дзьвух гадзінаў, было раздадзена 200 улётак, шмат гасьцей парку зь цікаўнасьцю распытвалі ўдзельнікаў акцыі пра Беларусь і мэту нашага пікету.

Хоць ўдзел у пікеце ўзяло ня шмат людзей, чалавек 15, але тыя, хто прысутнічаў, сапраўды пастараліся, за што ім вялікі дзякуй.

*Вольга КРУПНІК*

*На здымку: удзельнікі пікету ў Бостане.*




# Беларусы Нямеччыны спрабуюць аб'яднацца

У горадзе Лангсгуце, Баварыя, 2 траўня адбыўся ўстаноўчы сход новай беларускай арганізацыі на чужыне "Зьвязу Беларусаў Нямеччыны".

На ім прысутнічалі прадстаўнікі з розных гарадоў краіны, усяго 11 чалавек. Прыняты статут, абранае кіраўніцтва - старшыня, сакратар і скарбнік.

Можна сказаць, што гэтую падзею ў беларускім замежжы чакалі даўно. Раней былі спробы аб'яднаць беларусаў у Нямеччыне, але пакуль гэта не ўдавалася. Арганізаваную беларускую прысутнасьць у Нямеччыне аднавіла новая беларуская эміграцыя. Старшынём абраны сп. Яўген Мурашка.

Арганізацыя пакуль яшчэ незарэгістраваная, але пасьля праведзенага сходу будуць рабіцца крокі для наданьня ёй афіцыйнага статусу.

Сяброўства ў Зьвязе будзе нефіксаваным. Да арганізатараў могуць далучацца ўсе жадаючыя. Асноўная мэта Зьвязу - аб'яднаць беларусаў, якія сёньня волею лёсу апынуліся ў Нямеччыне, дзеля таго, каб нечым дапамагчы адзін аднаму. Гэта будзе матар'яльная дапамога па магчымасьці, юрыдычная, дапамога інтэграцыі ў нямецкае грамадзтва. У плянах таксама культурна-асьветная дзейнасьць для прапаганды Беларусі ўНямеччыне.

Заснавальнікі арганізацыі спадзяюцца ўзаемадзейнічаць з уладамі Нямеччыны, каб перакрыць доступ крымінальным структурам, якія сёньня ідуць зь Беларусі па фіктыўных даведках, якія набывалі за грошы. Гэта фальшывыя палітычныя эміграінты.

Новазаснаваная арганізацыя будзе імкнуцца супрацоўнічаць з іншымімі беларускімі арганізацыямі, якія існуюць ва ўсёй Эўропе.

*Радыё Свабода*

# Сьвяточныя праклямацыі

Кіраўніцтва нью ёркаўскага аддзелу БАЗА штогод зьвяртаецца да губэрнатара штату і мэра гораду з прапановаю абвесьціць дзень 25 Сакавіка Днём незалежнасьці Беларусі адпаведна ў штаце і горадзе Нью Ёрку. І губэрнатар, і мэр на такую просьбу заўсёды адклікаюцца прыхільна і перад сьвяткаваньнямі выдаюць спэцыяльную праклямацыю.

На здымку ўнізе зьмяшчаем выгляд дэклярацыі мэра гораду Нью Ёрку Майкла Блумбэрга, якую ён падпісаў сёлета.

Падобныя да гэтай праклямацыі атрымліваюць беларусы й у іншых штатах і гарадох, дзе ёсьць большыя грамады нашых суайчыньнікаў, Нью Джэрзі, Агаё, Мічыган, Кліўленд і г. д.

Заклікаем беларусаў, якія жывуць у больш аддаленых мясцовасьцях таксама зьвяртацца да мясцовых урадаў з мэтаю атрыманьня такіх праклямацыяў.



Office of the Mayor

CITY OF NEW YORK

Proclamation

WHEREAS: EVERY YEAR, PEOPLE OF BELARUSAN DESCENT IN NEW YORK CITY AND THROUGHOUT THE WORLD CELEBRATE BELARUSAN INDEPENDENCE DAY ON THE TWENTY-FIFTH OF MARCH. TODAY, NEW YORKERS JOIN THE BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, FOUNDED IN 1949, IN HONORING THE 86TH ANNIVERSARY OF THE BELARUS NATIONAL REPUBLIC.

WHEREAS: THE LAND THAT IS THE PRESENT DAY BELARUS WAS SETTLED BY THE TRIBES OF KRYVICHY, DRYHVICHY, VIACICHY, AND RADZIMICHY IN THE SIXTH CENTURY A.D., AND PRINCE RAHVALOD ISSUED THE FIRST WRITTEN DOCUMENT OF BELARUSAN STATEHOOD IN 980 A.D. IN THE 13TH CENTURY, THE GRAND DUCHY OF LITVA WAS FOUNDED WITH THE ASSUMPTION OF POWER BY MINDAUH IN THE PRINCIPALITY OF NAVAHRADAK. THE TERRITORY CONSISTED OF THE PRESENT BELARUS AND OTHER TERRITORIES, AND THE STATE LANGUAGE WAS BELARUSAN. IN THE LATE 18TH CENTURY, BELARUS WAS INCORPORATED INTO THE RUSSIAN EMPIRE. AFTER VARIOUS UPRISINGS, ON MARCH 25, 1918, THE BELARUSAN NATIONAL REPUBLIC WAS PROCLAIMED WITH A CONSTITUTION GUARANTEEING FREEDOM OF SPEECH, PRESS, AND ASSEMBLY, AS WELL AS OTHER PROTECTIONS FOR THE LIBERTY AND DIGNITY OF THE INDIVIDUAL. HOWEVER, ON JANUARY 1, 1919, THE BELARUSAN NATIONAL REPUBLIC WAS INCORPORATED INTO THE SOVIET UNION, AND IT WAS NOT UNTIL AUGUST 25, 1991, THAT THE REPUBLIC OF BELARUS ONCE AGAIN DECLARED ITS INDEPENDENCE. TODAY, THE PEOPLE OF BELARUS STILL STRUGGLE TO ATTAIN FULL DEMOCRACY AND TO RECOVER FROM THE TRAGIC EFFECTS OF THE NUCLEAR DISASTER THAT TOOK PLACE IN 1986 AT NEARBY CHERNOBYL.

WHEREAS: THE BELARUSAN PEOPLE'S PURSUIT OF INDEPENDENCE AND DEMOCRACY IS AN INSPIRATION TO PEOPLE THROUGHOUT THE WORLD. OUR CITY'S BELARUSAN COMMUNITY, ONE OF THE LARGEST IN THE UNITED STATES, SHARES ITS RICH CULTURAL HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS AND MAKES IMPORTANT CONTRIBUTIONS TO EVERY AREA OF THE LIFE OF OUR CITY.

NOW THEREFORE, I, MICHAEL R. BLOOMBERG, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THE 86TH ANNIVERSARY OF BELARUSAN INDEPENDENCE, DO HEREBY PROCLAIM THURSDAY, MARCH 25TH, 2004, IN THE CITY OF NEW YORK AS:

"BELARUSAN INDEPENDENCE DAY"

MICHAEL R. BLOOMBERG
MAYOR

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

# ЗБС за правы студэнтаў

Зьвяз нацыянальных студэнцкіх зьвязаў Эўропы "ESIB" падтрымаў ЗБС у змаганьні супраць палітызацыі сыстэмы вышэйшай асьветы ў Беларусі.

Удзельнікі зьезду ESIB (The National Students Unions in Europe, саюз нацыянальных студэнцкіх зьвязаў Эўропы) падтрымалі ідэю ЗБС аб стварэньні "Дэклярацыі правоў студэнтаў" і прынялі рэзалюцыю, якая будзе накіраваная Савету Эўропы, у якой выказаліся супраць палітызацыі беларускай адукацыі й уціску на ЗБС з боку спэцслужбаў.

Прадстаўніком Беларусі ў ESIB зьяўляецца адзіная агульнанацыянальная студэнцкая арганізацыя ў Беларусі - Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў. Дзякуючы гэтаму прадстаўніцтву і беларускае студэнцтва мае магчымасьць далучыцца да стварэньня эўрапэйскай гісторыі на роўных са студэнтамі зь Вялікабрытаніі, Нарвэгіі, Швайцарыі й яшчэ 31-й краіны Эўропы.

22-26 красавіка ў Banja Luka (Bosnia-Herzegovina) адбыўся 46-ты зьезд (Board Meeting) ESIB. Удзельнікі зьезду падтрымалі ЗБС у барацьбе супраць палітызацыі адукацыі, падтрымаўшы рэзалюцыю, якая накіраваная ўсім уплывовым эўрапейскім арганізацыям, у тым ліку, Савету Эўропы.

Эўрапэйскія студэнты займаюцца абмеркаваньнямі таго, як паскорыць практычнае выкананьне Балонскай дэклярацыі, як забясьпечыць роўны доступ да адукацыі для людзей з рознай сэксуальнай арыентацыяй, як удасканаліць сыстэму крэдытнага фінансаваньня адукацыі. У гэты час у беларускіх унівэрсытэтах уведзены прадмет "беларуская дзяржаўная ідэалёгія" для чарговага прамываньня мазгоў беларускіх студэнтаў. А Міністэрства Адукацыі РБ прымае загады дзеля далейшага ўдасканаленьня ідэалягізацыі. (Апошні: № 283 ад 01.04.2004 "О неотложных мерах по организации идеологической работы в вузах".)

ESIB вітае распрацоўку ЗБС "Дэклярацыі правоў студэнтаў" як дзейны сродак выказваньня поглядаў, патрэбаў і праблемаў беларускага студэнцтва. "Дэклярацыі правоў студэнтаў" распрацоўвалася студэнтамі розных ВНУ Беларусі падчас студэнцкіх форумаў, якія адбыліся на працягу году ва ўсіх буйных гарадох краіны. Студэнты абмяркоўвалі мэханізмы абароны правоў студэнтаў, атрымлівалі парады ад юрыстаў, дасьведчаных у гэтай галіне, дыскутавалі, якімі мусяць быць правы беларускіх студэнтаў. І такім чынам выпрацоўвалі прапановы ў "Дэклярацыю правоў студэнтаў". У ме-

**Працяг на бачыне 6**

# Беларусь за месяц

## Чарнобыльскія ўгодкі

Так павялося, што ў Беларусі ўлады адзначаюць свае ўгодкі Чарнобылю, а апазыцыя - свае. І ніхто ня хоча саступіць і зрабіць крок насустрач.

Вось і гэтым разам Аляксандар Лукашэнка выбраўся ў дзевяцідзённую вандроўку па Гомельшчыне і Берасьцейшчыне, даводзячы, што там можна ня толькі жыць, ня шкодзячы здароўю, але і вырошчваць сельскагаспадарчую прадукцыю на экспарт. Амаль штодня па тэлебачаньні паказвалі, як ён дэгустуе прадукцыю зь сялянскіх падворкаў, п'е нахвальваючы "чарнобыльскае" малако ды заахвочвае моладзь заставацца ў гэтых мясьцінах.

Падчас вандроўкі па Палесьсі Лукашэнка заявіў, што ў найбліжэйшы час (як у сапраўднага клясыка) выйдзе чатырохтомнік ягоных прамоваў. "Любы можа паглядзець, што я казаў у сярэдзіне 90-х, калі ішла гаворка пра стварэньне саюзнае дзяржавы. Вы пабачыце, што гэта была пасьлядоўная лінія, мы нікога прымусова ў саюз не цягнулі", - з гонарам зазначыў ён.

У сталіцы-ж 26 красавіка прайшоў традыцыйны "Чарнобыльскі шлях", у якім узяло ўдзел каля тысячы чалавек - што стала найбуйнейшай акцыяй за апошнія гады.

Мэрыя, па старой завядзёнцы, дазволіла толькі мітынг на плошчы Бангалёр. Але ўдзельнікі акцыі прайшлі пешкі ад плошчы Якуба Коласа па праспэкце Скарыны й вуліцы Сурганава. Міліцыя не замінала. Адно што на некаторы час затрымала машыны, якія везьлі транспаранты, звон і абраз з выявай "Маці Божай Чарнобыльскай".

Пасьля сканчэньня акцыі быў затрыманы актывіст Аб'еднанай грамадзянскай партыі (АГП) Андрэй Козел. На наступны дзень ён быў асуджаны на сем дзён за парушэньне правілаў арганізацыі вулічных акцый. Таксама 27 красавіка былі вынесеныя прысуды заяўнікам акцыі. Намесьнік старшыні Партыі БНФ Алесь Міхалевіч атрымаў дзесяць дзён адміністрацыйнага арышту, а сябра АГП Людміла Гразнова была аштрафаваная на 4 мільёны 275 тысяч рублёў (амаль $2000).

25 красавіка актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі - БНФ, ня гледзячы на моцны дождж, адзначылі ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы ў Курапатах. Яны запалілі сьвечкі й усклалі кветкі да галоўнага курапацкага крыжа. Сябры КХП - БНФ спрабавалі правесьці акцыю ў цэнтры Менску, але гарадзкія ўлады выдалі "дазвол" толькі на плошчу Бангалёр.

У Магілёве сябры дэмакратычных партыяў усталявалі ў цэнтры гораду драўляны крыж з жалобнаю стужкаю "Чарнобыль - наш боль", а побач зь ім - знак радыяцыйнае небясьпекі з пазнакаю "Магілёўская вобласьць".

У Віцебску сябры АГП і БНФ паспрабавалі прайсьці ўздоўж цэнтральнай вуліцы Леніна пад гукі сымбалічнага чарнобыльскага звону, аднак праз некалькі хвілінаў былі спыненыя. Усяго ў міліцэйскі нерат трапілі адзінаццаць чалавек.

## Арышт Марыніча

26 красавіка Камітэтам дзяржбясьпекі ў Менску быў арыштаваны грамадзка-палітычны дзяяч Міхаіл Марыніч. Паводле афіцыйнай інфармацыі, ён падазраецца ва ўчыненьні шэрагу злачынстваў. Так, падчас ператрусу на лецішчы былі знойдзеныя і канфіскаваныя афіцыйныя дакумэнты розных дзяржорганаў, якія на думку сьледства, утрымліваюць зьвесткі, што адносяцца да катэгорыі дзяржаўных таямніцаў. Былі таксама канфіскаваныя два незарэгістраваныя пісталеты й больш за $90 000.

Марыніч у свой час займаў пасаду міністра вонкаваэканамічных сувязяў, быў амбасадарам Беларусі ў Чэхіі й Латвіі. А апошнія гады ён далучыўся да апазыцыі, нават балатаваўся ў прэзыдэнты на выбарах 2001 году, аднак ня здолеў сабраць неабходную, 100 тысяч, колькасьць подпісаў.

## У хвасьце плянэты

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Freedom House надрукавала чарговы штогадовы даклад "Свабода слова - 2004", у якім канстатуецца, што прэса ў Беларусі "не свабодная". У рэйтынгу з 193 краінаў Беларусь займае 182-е месца.

Найвышэйшы рэйтынг з дзяржаваў былога СССР маюць: Эстонія на 30-м месцы, Латвія - на 32-м, Летува - на 35-м. Расія знаходзіцца на 148-м месцы, Украіна - на 152-м. Горай за Беларусь справы ў Паўн. Карэі, Кубе, Туркмэністане, Бірме, Лібіі, Зімбабвэ й Эрытрэі. Суседзтва, канечне, малапрыемнае.

Самымі свабоднымі ў галіне прэсы зьяўляюцца Данія, Ісляндыя, Швэцыя, Бэльгія, Фінляндыя, Нарвэгія, Швайцарыя і Новая Зэляндыя.

Freedom House, публікуючы рэйтынгі, ўлічвае заканадаўчае забесьпячэньне дзейнасьці СМІ, узровень палітычнага ціску і эканамічныя фактары, што ўплываюць на доступ інфармацыі. Пры падвядзеньні вынікаў улічваюцца тры пункты свабоды прэсы "свабодная", "часткова свабодная", "не свабодная". Як вынік, свабоднай у дачыненьні да прэсы былі прызнаныя 73 краіны, часткова свабоднымі - 49, не свабоднымі - 71 краіна.

## Быкаў і ўлады

Жыхары Горадні, у якім трыццаць гадоў жыў пісьменьнік, вырашылі стварыць ягоны музэй. Улады пакуль згодныя. Праўда, гэта яны крыху раней палічылі "нясвоечасовым" прапанову назваць бульвар імя Ленінскага камсамолу імем Быкава.

А вось у Віцебску мясцовыя актывісты зьвярнуліся да адміністрацыі з просьбаю перайменаваць Абласную бібліятэку імя У. Леніна ў бібліятэку імя Быкава. Чыноўнікі адказалі, што гэта немагчыма, бо такое перайменаваньне напярэдадні "вызваленьня Беларусі" ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў можа разлаваць вэтэранаў вайны.

Ды што казаць, калі кіраўнік Дзяржрэгістру кінастудыі "Беларусьфільм" Юры Цьвяткоў асабістым рашэньнем адмовіў у рэгістрацыі фільму "Доўгая дарога дадому... Рэквіем", прысьвечанага пісьменьніку. Маўляў, няпраўда там паказваецца.

## Скрадаюць шыльдаў

Позна ўвечары 15 красавіка невядомыя паспрабавалі скрасьці мэмарыяльную дошку, прысьвечаную заснавальніку Інбелкульта, першаму прэзыдэнту Беларускае акадэміі навук Усеваладу Ігнатоўскаму. Дошка знаходзіцца на доме па вуліцы Рэвалюцыйнай у Менску, дзе здымаюць памяшканьні Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і Скарынаўскі цэнтар.

Выпадковы мінак пабачыў, як зрывалі дошку са сьцяны, і паклікаў супрацоўніка "Бацькаўшчыны". Пасьля гэтага невядомыя зьніклі. Цікава, што за некалькі дзясяткаў мэтраў знаходзіўся аўтамабіль з супрацоўнікам Дзяржаўтаінспэкцыі, але той заявіў, што нічога ня бачыў і ня чуў.

27 красавіка з фасаду гэтага-ж дому зьнікла мэмарыяльная дошка пісьменьніку Максіму Гарэцкаму. Цікава, што яе ўжо аднойчы скрадалі. Гэта адбылося ў 2001 годзе, а праз год дошку падкінулі ў двор будынку. Застаецца два варыянты: магчыма хтосьці хоча за нешта адпомсьціць ці Бацькаўшчыне, ці Скарынаўскаму цэнтру. Альбо ў кагосьці "зуб" на Гарэцкага.

## Пра грошы

У сакавіку ў Беларусі сярэдні месячны налічаны заробак работнікаў павялічыўся з 288 988 да 308 663 рублёў (што складае 143,6 дал. ЗША, альбо 117,6 эўра). Сярэдні налічаны заробак рабочых і службоўцаў павялічыўся з 302.679 да 322.780 рублёў (150,1 даля., альбо 123 эўра). У сялянаў, натуральна, зарплата ніжэйшая. Да канца году ўрад абяцае павялічыць месячны заробак да 190-195 даляраў.

З пачатку году спажывецкія цэны вырасьлі на 5,5 адсоткаў.

## Беларусь - ЗША

9-11 красавіка ўвайшлі слаўнаю датаю ў гісторыю айчыннага спорту. У гэтыя дні на менскіх кортах зборная Беларусі па тэнісу ў складзе Максіма Мірнага і Уладзімера Ваўчкова перамагла ў чвэрцьфінале Сусьветнай групы Кубка Дэвіса зборную Аргентыны зь лікам 5:0.

Цяпер у паўфінале беларусы ў гасьцях сустрэнуцца са зборнаю ЗША. За амэрыканцаў, відаць, будзе выступаць уладальнік наймацнейшай падачы ў сьвеце Энды Родзік. Мячык пасьля падачы Родзіка ляціць з хуткасьцю 244 км у гадзіну.

Паўфінал пройдзе 24-26 верасьня, хутчэй за ўсё, у Нью-Ёрку. Будзе вельмі прыемна пабачыць дзясяткі бел-чырвона-белых сьцягоў над тэнісным кортамі.

*Уласны карэспандэнт*

## Цырку ня будзе

Амбасады краінаў, што ўваходзяць у Эўразьвяз і ўступаюць у яго, хацелі правесьці ў Менскім цырку гала-канцэрт з удзелам беларускіх і эўрапейскіх артыстаў для 1800 гасьцей.

Напачатку імпрэзы амбасадары краінаў Зьвязу павінны былі выйсьці на арэну са сьцягамі сваіх дзяржаваў і зьвярнуцца да аўдыторыі, а ў канцы ўсе разам праслухаць зварот старшыні Эўракамісіі Рамана Продзі, запісаны на відэастужку.

Амбасадары накіравалі зварот па дазвол на мерапрыемства некалькі тыдняў загадзя.

На просьбу Міністэрства замежных справаў (МЗС) Беларусі амбасадары двойчы пераносілі прэсавую канфэрэнцыю, на якой меркавалася абвесьціць пра сьвяткаваньне. Аднак ужо былі запрошаныя артысты, надрукаваны запрашальныя квіткі. З адмысловым атракцыёнам на сьвяткаваньні зьбіраўся выступіць ведамы нямецкі ілюзіяніст Аляксандар Коплін.

Аднак 26 красавіка МЗС Беларусі паведаміў, што прадстаўніцтва праект А. Лукашэнку не атрымалася, бо ён знаходзіцца ў Гомельскай вобласьці, таму гала-канцэрт у дзяржаўным цырку не адбудзецца. Але імпрэза магчымая, патлумачылі ў МЗС, калі з праграмы будуць выкрэсьленыя выступы амбасадараў і зварот кіраўніка Эўракамісіі.

Эўразьвяз на паддаўся на гэты відавочны шантаж і мерапрыемства было адмененае.

Паведаміць пра гэта давялося ў амбасадзе Летувы, бо беларускія ўлады адмовілі ў правядзеньні прэс-канфэрэнцыі ў нацыянальным прэсавым цэнтры.

## "Таўкачыкі на Юр'я"

У Менску 4 траўня распачаўся фэстываль сучаснай фальклёрнай музыкі "Таўкачыкі на Юр'я". Яго ладзяць "Беларуская музычная альтэрнатыва" і фольк-гурт "Юр'я". Удзел у імпрэзе бяруць каля 20 беларускіх гуртоў, якія папулярызуюць традыцыйную і сучасную фальклёрную музыку. Цягам трох дзён выступяць на буйных канцэртных пляцоўках Менску, а таксама ў Любаньскім раёне.

Фэстываль распачаўся ў Доме культуры вэтэранаў выступам гуртоў, якія папулярызуюць архаічны фальклёр, — гэта "Ліцьвіны", "Guda", "Кудмень". 5 траўня ў канцэртнай зале "Менск" фэстываль прадоўжаць выканаўцы, якія традыцыйны фальклёр стылізуюць, гэта "Krіwi", "Стары Ольса", "Бан Жвірба" і іншыя. Дарэчы, спалучэньне архаікі й сучаснай музыкі ёсьць асаблівасьцю фэсту. Адзін зь ягоных удзельнікаў, лідэр гурту "Палац" Алег Хаменка, лічыць вельмі важным гуртаваньне музыкаў на глебе нацыянальнай культуры.

Упершыню фольк-фэстываль "Таўкачыкі" адбыўся ў 2000 годзе. Арганізатары спадзяюцца, што ён стане традыцыйным.

*Паводле Радыё Свабода*

# Клюбу "Спадчына" - 20 гадоў

Спадчына - ёмістае слова - адразу ўзгадваецца нешта бацькоўскае, радзіма, культурныя і матэр'яльныя набыткі, помнікі - усё-ўсё, што продкі ўклалі ў нашыя рукі й душы, і што аб'ядноўвае нас як нацыю.

20 гадоў таму занепакоены лёсам Айчыны былы лётчык, затым філёзаф Анатоль Белы стварыў культурна-асветны клюб "Спадчына", у якім распачатая і з усё ўзрастаючым імпэтам разгортваецца праца па зьбіраньні, прапагандзе і далейшым развіцьці спадчынных каштоўнасцей, матэр'яльных, духоўных. Усё болей людзей, сяброў клюбу, мастакоў, скульптараў, пісьменьнікаў, спэцыялістаў іншых прафэсіяў далучаюцца да гэтай высакароднай справы. Апроч збору розных экспанатаў, маючых культурную і гістарычную вартасьць, клюбам "Спадчына" зробленыя й пастаўленыя ў бронзе і камяні помнікі розным выдатным нацыянальным асобам, адзін пералік якіх даволі ўнушальны: Ф. Скарына, М. Гусоўскі, Е. Полацкая, К. Тураўскі, С. Будны, В. Цяпінскі (дворык БДУ), М. Багдановіч (Яраслаўль), А. Багдановіч (Халопенічы), М. Ермаловіч (Маладзечна), Л. Геніюш (Зэльва), М. Улашчык (сядзіба Музэя выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах), а на чарзе - помнікі іншым дзеячам беларускай культуры.

У экспазіцыі Музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах сабраныя матэр'ялы, якія рэдка дзе сустракаюцца або якіх нідзе няма. Уражвае, напрыклад, унікальная экспазіцыя "Гісторыя Беларусі ў мастацкіх вобразах і партрэтах", яна пачынаецца зь першых князёў. Адная з заляў адведзеная Васілю Быкаву. Пэўную вартасьць гэтаму музею надаюць сабраныя тут партрэты Ф. Скарыны - 80 асобнікаў і К. Каліноўскага - 75 асобнікаў, а таксама творы медальнага мастацтва - 600 медалёў, самы раньні зь якіх адносіцца да 1700 году.

Дасьціпныя і, найчасьцей, зайздросныя людзі часам пытаюцца ў Белага: "Анатоль, дзе ты грошы бярэш?" А ён, дальбог, не маніць, калі адказвае: "Слова гонару, ні ў вас, ні ў каго-небудзь іншага не краду, у дзяржавы - таксама... Можаце спаць спакойна!" Дарэчы, ніхто і ня ведае, якія той Белы сродкі мае. Затое ведама іншае: вялікая, калі ня большая, частка стваральнай працы ў клюбе "Спадчына" выконваецца на энтузыязме, на дабрачынным пачатку. Там гуртуюцца людзі высокіх патрыятычных парываньняў, якія робяць тое, што ўмеюць рабіць, - як тыя пчолы, што напаўняюць соты мёдам, яны запаўняюць пустоты на ніве культуры, і гэта робіць ім гонар, бо якраз у гэтым зарука і багацьця, і прыгажосьці нацыянальнай нівы, занядбанай іншымі грамадзянамі.

То здароўя, плёну і даўгалецьця ўсім рупліўцам, згуртаваным у клюбе "Спадчына"!

*Васіль ЯКАВЕНКА*

## Беларуская замежная прэса і радыё

## RFE/RL Belarus and Ukraine Report

A Survey of Developments in Belarus and Ukraine

**"RFE/RL Poland, Belarus, and Ukraine Report"** (далей PBU) зьявіўся ўпершыню 25 траўня 1999 году. З таго часу гэтае выданьне рэгулярна зьяўляецца ў Інтэрнэце як тыднёвік (48 выпускаў на год) пад адрасам ***http://www.rferl.org/subreports.asp.*** PBU можна атрымліваць электроннаю поштаю, папярэдне аформўшы бясплатную падпіску. Аб'ём тыднёвага выпуску вагаецца паміж 2000 і 3500 словаў.

Ад самага ўзьнікненьня PBU яго рыхтуе, рэдагуе і піша бальшыню артыкулаў у ім Ян Максімюк, палітычны аналітык Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. Максімюк выкарыстоўвае дзеля сваіх публікацыяў як інфармацыйныя рэсурсы Беларускай і Украінскай Службаў Радыё Свабода, так і шырокі набор інтэрнэтаўскіх і іншых інфармацыйных крыніцаў з Польшчы, Беларусі й Украіны. Цягам апошняга году-паўтара практычна ў кожным выпуску PBU можна знайсьці тэкст, напісаны асобаю з па-за Радыё. Рэгулярнымі супрацоўнікамі-дапісчыкамі PBU ёсьць Тарас Кузё (Таронта), Вера Рыч (Лёндан), Віталь Сіліцкі (Менск).

PBU прысьвечаны галоўным чынам асьвятленьню бягучых палітычных, эканамічных і грамадзкіх пытаньняў у Польшчы, Беларусі й Украіне, а таксама аналізу працэсаў посткамуністычнай трансфармацыі ў гэтых краінах. Зрэдчасу ў PBU зьяўляюцца артыкулы на культурныя і/ці гістарычныя тэмы, датычныя гэтых краінаў.

Сёньня PBU мае каля 3000 падпісчыкаў, якія рэгулярна атрымліваюць выданьне электроннаю поштаю. Дакладны лік чытачоў, якія знаёмяцца з выданьнем непасрэдна ў сеціве, невядомы. Мяркуючы па водгуках чытачоў, якія прыходзяць на Радыё ў агульнасьці й Яну Макмімюку ў прыватнасьці, чытацкую публіку складаюць перш за ўсё: а) палітолягі, зацікаўленыя праблемамі посткамуністычнай трансфармацыі ва Ўсходняй Эўропе; б) студэнты; в) чыноўнікі ў міністэрствах замежных справаў, якія непасрэдна займаюцца пытаньнямі Польшчы, Беларусі ды Украіны; д) актывісты розных недзяржаўных і/альбо праваабарончых арганізацыяў; е) украінская, польская і беларуская дыяспара, пераважна ў Канадзе і ЗША. Мяркуючы па тым, што на тэксты ў PBU спасылаюцца палітолягі ў сваіх навуковых публікацыях, выданьне стала аўтарытэтнаю крыніцаю інфармацыі й палітычнага аналізу ў дачыненьні да Польшчы, Беларусі й Украіны.

**Ян МАКСІМЮК**

*Ад пачатку бягучага году назва выданьня зьмянілася на RFE/RL Belarus and Ukraine Report. Знайсьці яго можна на старонцы Радыё Свабода: : **www.svaboda.org***

# З Заходніх франтоў на катаргу ў Сібір

Рэдакцыйны камітэт: ***Уладзімер Адамушка, Гжэгож Якубоўскі*** й ***Енджэй Тухольскі*.** **Spod Monte Cassino na Sybir. Deportacja bylych zolnierzy Polskich Sil Zbrojnych na Zachodzie z Bialorusi, Litwy I Ukrainy w 1951 roku.** 303 бач. Warszawa. 1998.


Centralne Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych i Administracji

SPOD MONTE CASSINO NA SYBIR

Deportacja byłych żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 roku

Warszawa 1998

*Далеко в стране Иркутской*
*Там построен большой дом.*
*Он построен для народа,*
*Арестанты сидят в нём...*
***Песьня зьняволеных***

У цывілізаваным сьвеце ад вякоў быў звычай вітаць з пашанаю жаўнераў, якія вярнуліся дамоў пасьля вайны. Віталі іх родныя, і вітала Бацькаўшчына. Віталі іх бяз розьніцы ці былі яны пераможцамі з гэройскімі мэдалямі на грудзёх, ці без ніякіх мэдалёў. Віталі таксама тых няшчасных жаўнераў, якія вярталіся з палону.

А які быў падыход у Савецкім Саюзе да жаўнераў, што вярнуліся з вайны? Там, натуральна, людзі таксама цешыліся і віталі сваіх блізкіх і родных, якія вярнуліся. Але падыход савецкай улады да былых польскіх жаўнераў і да сваіх чырвонаармейцаў, якія вярнуліся зь нямецкага палону, ня быў ані дабрадушны, ані зычлівы. А для напаміну як саветы абыходзіліся з афіцэрамі й жаўнерамі, якія трапілі ў іхні палон, дастаткова нагадаць агульнаведамую трагедыю растраляных у Катыні.

У Польскім Войску на Захадзе, якое падлягала пад брытанскае камандаваньне, было вельмі шмат беларусаў. Па вайне многія зь іх вярнуліся да сваіх родных і блізкіх у Беларусь. Што-ж чакала былых жаўнераў Польскага войска на Захадзе з арміі генэрала У. Андэрса, якія пастанавілі дабраахвотна вярнуцца на Бацькаўшчыну?

Адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў кнізе "Spod Monte Cassino na Sybir", ("З-пад Монтэ Касіно ў Сібір"), выдадзенай у Варшаве ў 1998 годзе. Аказваецца, што ў ноч зь пятніцы на суботу з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 году НКВД арыштавала ў Беларусі, Летуве і Украіне усіх былых жаўнераў Польскага войска на Захадзе, якія дабраахвотна вярнуліся на сваю Бацькаўшчыну прыканцы 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Арыштавалі таксама іхныя сем'і. І ўсіх разам выслалі на катаргу ці спэцперасяленьне ў Іркуцкую вобласьць. Трэба дадаць, што і да гэтай трагічнай ночы НКВД арыштоўвала і засуджвала адзінкі з тых жаўнераў пад рознымі прычынамі: шпіянаж, здрада Радзіме, антысавецкая дзейнасьць ці прапаганда і г. д.

Трагедыю гэтых людзей добра насьвятляе сп. Е. Тухольскі ў сваім уступным артыкуле да кнігі, ён піша:

"Калі гады два таму назад мы рыхтаваліся з сп. Пжэмыславам Раманюкам да друку кнігі "Litosci..." ("Літасьці..."), адзін зь яе аўтараў беларускі гісторык і архівіст Уладзімер Адамушка да нашага вялікага зьдзіўленьня ўспамянуў, што ў архівах ягонай краіны знаходзяцца сьпісы некалькіх сотняў здэмабілізаваных жаўнераў генэрала Андэрса, якіх разам зь сем'ямі выселілі зь Беларусі ў Сібір ў 1951 годзе.

Справа здалася нам напачатку непраўдападобнай. Войска, якое генэрал Андэрс у 1942 годзе вывез з СССР на Бліжні Ўсход, і якое пад ягоным камандаваньнем потым пераможна ваявала ў Італіі, складалі перадусім з польскіх палонных, перасяленцаў і лягерных асобаў. Ці-ж маглі тыя жаўнеры, дасьведчаныя лёсам аб зьняволеньні, зрабіць калектыўнае шаленства вярнуўшыся ў родную старонку - на Навагрудчыну, Палесьсе, Віленшчыну - рызыкуючы такім чынам ізноў раней ці пазьней падпасьць пад непазьбежныя савецкія рэпрэсіі?..."

Мудрыя словы напісаў сп. Тухольскі, да якіх цяжка нешта дадаць. Аднак варта зрабіць кароткія камэнтары да гэтага ўступнага артыкулу. Па-першае, у 1955-58 гадох шмат гэтых спэцперасяленцаў выехала ў... Польшчу. Цяжка паверыць, каб усе яны потым маўчалі аб тым, што саветы вывезьлі іх на катаргу. Хоць сп. сп. Тухольскі і Раманюк і ня ведалі аб вывозах у 1951 годзе, але, на маю думку, гэта ў Польшчы не было сакрэтам, і шмат людзей павінны былі аб гэтым ведаць. Па-другое, зь вялікім зьдзіўленьнем чытаецца наступная частка аб шлюбах паміж спэцперасяленцамі: "Было амаль правілам, што ссыльныя жаўнеры, каб захаваць польскасьць жанілі ў Сібіры сваіх дзяцей у собскім асяродзьдзі." Ня ведаю, як там было на ссылцы ў Іркуцкай вобласьці, але памятаю, што падчас мае ссылкі ў Архангельскую вобласьць (1940-41 г. г.) спэцперасяленцам не дазвалялася сябраваць, а тым больш жаніцца зь мясцовымі (свабоднымі) жыхарамі. Акрамя гэтага, нашто прыпісваць нейкае патрыятычнае "захаваньне польскасьці" асобам, якія ў лягерных абставінах пазнаёміліся, закахаліся і пажаніліся, а тым больш што сярод тых спэцперасяленцаў большасьць складалі беларусы, а не палякі.

У канцы кнігі падаецца імянны сьпіс жаўнераў, часам і іхных сем'яў, якія былі вывезеныя ў 1951 годзе. Але гэты сьпіс ня ёсьць поўным за выняткам тых, хто быў арыштаваны ў Беларусі, адкуль было вывезена 888 былых жаўнераў. Аднак калі хоць-бы аб колькасьці вывезеных зь Летувы й Украіны, то аўтары дакладнага сьпісу ня мелі. У Польшчу выехала з ссылкі 40 былых жаўнераў, якія паходзілі зь Летувы, і 19 жаўнераў паходжаньня з Украіны. Гэтыя жаўнеры выехалі ў 1955-58 гадох у Польшчу са сваімі сем'ямі. Паколькі аўтары кнігі мелі доступ да польскіх архіваў, якія тычацца рэпатрыянтаў у Польшчу, то ў кнізе падаецца вельмі шмат дэталяў ня толькі аб жаўнерах, але і аб іхных сем'ях. Выяжджалі ў Польшчу ня ўсе. Што сталася з тымі людзьмі, якія засталіся ў СССР, аўтары ня ведаюць і толькі коратка напісалі "далейшы лёс няведамы".

Хто-ж пастанавіў пакінуць савецкі рай і рэпатрыявацца ў Польшчу? Аналіз прозьвішчаў і імёнаў паказвае, што бальшыня рэпатрыянтаў - гэта нашыя беларусы. І гэта яшчэ раз пацьвярджае, што па вайне тысячы й тысячы беларусаў выехалі ў Польшчу, бо не хацелі жыць пад савецка-камуністычным тэрорам.

А кім-жа былі тыя жаўнеры-беларусы, якія зрабілі "калектыўнае шаленства" і адважыліся па вайне вярнуцца ў СССР? Аказваецца, што гэта былі пераважна былыя польскія жаўнеры, якія ў 1939 годзе трапілі ў савецкі палон. Пасьля так званай амністыі ў 1941 годзе яны ўступілі ў польскае войска, якое фармавалася ў СССР. І з гэтым войскам яны выехалі ў Іран і г. д. Яны глыбока верылі, што НІЯКАГА злачынства супраць СССР не зрабілі.

Вярнуліся ў Беларусь таксама 11 аргэнтынцаў. Гэта былі людзі, якія перад 1939 годам у пошуках лепшага жыцьця эміґравалі ў Аргэнтыну. У 1941-42 гадох яны дабраахвотна ўступілі ў Польскае войска на Захадзе і трапілі ў Англію. Усіх іх таксама вывезьлі ў Сібір. Былі таксама людзі, якія траплялі ў Польскае войска на Захадзе і іншымі шляхамі, потым вярнуліся ў СССР і аказаліся ў Сібіры.

У кнізе аж 444 фатаграфіі былых жаўнераў, ёсьць таксама копіі розных дакумэнтаў. У сьпісе пад нумарам 329 успамінаецца Цімафей Касьцэвіч, якога я добра ведаў у Палестыне. Мае кароткія ўспаміны аб ім я напісаў у газэце "Рунь" №26. Што зь ім сталася пасьля высяленьня ў Сібір няведама.

Пад нумарам 264 успамінаецца Барыс Ятко-Яткоўскі якога я таксама добра ведаў. Ятко-Яткоўскі быў украінцам і па прафэсіі опэрным сьпеваком. У Палестыне ён быў цывільным і па вайне вырашыў вярнуцца ва Ўкраіну. Але, відаць, не прыжыўся, бо ягонае прозьвішча ёсьць на беларускім лісьце. Спачуваю Ц. Касьцэвічу і Б. Ятко-Яткоўскаму.

Вось так саветы аднесьліся да жаўнераў, якія таксама ваявалі з фашыстоўскай Нямеччынай пад камандаваньнем Вялікабрытаніі, краіны, якая была добрым саюзьнікам СССР падчас вайны. А якое злачынства зрабілі жонкі й дзеці жаўнераў ці іхныя сваякі, якіх так брутальна вывезьлі на катаргу? Адказ просты й ясны: НІЯКОГА.

Кніга вельмі цікавая, добра і дэтальна апрацаваная. Аўтары ўклалі шмат працы пры яе складаньні, за што ім трэба падзякаваць.

**Міхась ШВЭДЗЮК**




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №5 (460)


# Красавіцкі сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА

Чарговы сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА прайшоў 10 красавіка. Як звычайна, напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі з жыцьця аддзелу і з навінамі зь Беларусь за апошні месяц. Сярод іх былі ўзгаданыя перасьлед незалежнага друку і канфіскацыя накладу газэты "Дзень", якую рэдагуе сп. М. Маркевіч, рэдактар ліквідаванай уладамі "Пагоні"; забарона фільму пра Васіля Быкава; працяг перасьледу і закрыцьцё недзяржаўных арганізацыяў; праект пастановы Камісіі ААН па правах чалавека аб парушэньні правоў чалавека ў Беларусі ды іншае.

Затым перад прысутнымі з развагамі аб становішчы ў Беларусі й вакол яе выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Пачаўшы з аналізу зьнешнепалітычнай сытуацыі вакол Беларусі, ён адзначыў, што ўплыў міжнароднай палітыкі на Беларусь вельмі значны, і хоча рэжым ці ня хоча - ён мусіць на гэта рэагаваць. Прычым сутнасьць канфлікту вакол Беларусі - гэта змаганьне за незалежнасьць і сваё нацыянальнае разьвіцьцё, якое ўскладняецца тым, што два суседнія бакі - Эўропа і Расея - знайшлі агульную мову ў дачыненьні да Беларусі, і іхныя стратэгічныя пляны адмаўляюць нармальнае нацыянальнае разьвіцьцё Беларусі. Сытуацыя вельмі нядобрая, але такое ўзаемадзеяньне Эўропы й Расеі можна часам павяртаць на карысьць Беларусі, асабліва ва ўмовах, калі апазыцыя надзвычай слабая і падзеленая, а сродкі ўплыву на рэжым абмежаваныя амаль да нуля. Дзейнасьць Ганса-Георга Віка ёсьць прыкладам ганебнага ігнараваньня пытаньняў дэмакратыі й незалежнасьці ў Беларусі. Замест дапамогі незалежніцкім сілам Вік заняўся ўмацаваньнем статус-кўо і падтрыманьнем легалізацыі рэжыму Лукашэнкі. Гэта давяло да мяжы - да заявы Пуціна аб уваходжаньні ў Расею шасьцю губэрнямі. У студзені сёлета Г.-Г. Вік, які захоўвае ўплыў нават тут у ЗША, даў інтэрв'ю "Беларускай газэце", дзе ўзгадаў наступныя рэчы: задачаю місіі АБСЭ было пасадзіць Лукашэнку і апазыцыю за адзін стол і пачаць перамоўныя працэс. Было выдзелена на гэта 1,5 мільёны даляраў, і - гэта прагучэла ўпершыню - усе паперы АБСЭ на перамовах з рэжымам падпісваў старшыня КГБ! Гэта скандал, гэта бомба, якая павінна была-б узарвацца, але - гэтае выказваньне Віка замоўчваецца. Пытаньне - чаму робіцца такія прызнаньні? Безумоўна гэта спроба вывесьці з-пад удару структуры, якія на самой справе санкцыянавалі гэты працэс. Эўропа і Расея зацікаўленыя ў захаваньні ўплыву, імкнуцца стварыць вакуум вакол нацыянальных вызвольных сілаў. Але разам з тым яны мусяць увесь час рабіць крокі дзеля ўзаемнага збалянсаваньня, і мы можам і павінны карыстаць як найболей з магчымасьцяў, што ў такі час узьнікаюць. Далей прамоўца даў кароткі агляд нутранога становішча ў краінах-суседзях Беларусі.

Сп. Пазьняк адзначыў, што Расея, якая мае памер бюджэту як у Галяндыі й аб'ём прамысловай прадукцыі як у Тайваня, тым ня менш кемліва скарыстала з міжнароднай кан'юнктуры і, як некалі зьнясіленая, але кемлівая Бізантыя, ужывае супярэчнасьці й памылкі іншых урадаў і падвышае свой уплыў у сьвеце, асабліва ў сьвятле апошніх падзеяў на Блізкім Усходзе. Расея змусіла Захад лічыцца з сабою і насіцца, як з гарачай бульбінай, хоць ня мела дастатковых падставаў для такога стаўленьня. Рэжым Пуціна трымаецца на высокім кошце на нафту, але пакуль будзе цягнуцца закалот у Іраку, гэтым коштам нішто не пагражае. Дактрына Пуціна - палітыка гандлю. Гэта добра паказвае т. зв. "газавая вайна". Гэты канфлікт Лукашэнкі з Пуцінам ня больш як спэктакль, які добра падняў рэйтынг Лукашэнкі. Гэта раскалола сьведамасьць многіх беларускіх патрыётаў, якія сталі ўспрымаць Лукашэнку як абаронцу суверэнітэту. Між тым ягоная ўнутраная палітыка цалкам абвяргае такія меркаваньні. Ва ўмовах, калі не існуе традыцыі палітычнай дзейнасьці, людзі лёгка робіцца аб'ектам маніпуляцыі праз масавыя сродкі. Небясьпечным момантам зьяўляецца імітацыя "парляманцкіх выбараў" у кастрычніку. Зь імі будзе спалучаны рэфэрэндум пра трэці тэрмін для Лукашэнкі. І тое, і другое - з прадказальным вынікам.

Безумоўна, Расея хацела-б мець згаворлівейшага партнэра. Лукашэнка гатовы здаць Беларусь за адпаведны кошт, іншая рэч - гэты кошт сёньня для Расеі завялікі. Між тым Расея карыстаецца прынцыпам: "Суччы сын, але - наш." Адзінае выйсьце для беларускіх нацыянальных сілаў - правядзеньне палітыкі байкоту і выбараў, і рэфэрэндуму. Заклік некаторых дзеячоў "паспрабаваць", "скарыстаць нагоду", "падужаца" з рэжымам нагадваюць піханьне шырокай шафы ў вузкія дзьверы - як не спрабуй, вынік загадзя ведамы".

Затым сп. Вячка Станкевіч паінфармаваў прысутных пра разьвіцьцё падзеяў з Актам аб Дэмакратыі ў Беларусі й пра дапамогу Беларускаму Гуманітарнаму Ліцэю. Гэтая акцыя працягнецца да канца школьнага году.

Пасля ў разьдзеле "Рознае" прагучалі аб'явы, адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу. За кубкам кавы прысутныя маглі калегавацца з знаёмымі й сябрамі пасьля афіцыйнай часткі сходу.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ю. Андрусышын | 30 | Т. Міцкевіч | 30 |
| І. Багасай | 30 | К. Романо | 30 |
| Р. Зайка | 30 | Г. Русак | 30 |
| Я. Каханоўская | 30 | У. Русак | 30 |
| Т. Красоўская | 30 | Э. Рыжы | 30 |
| З. Левіт | 30 | С. Шыбалка | 30 |
| А. Міцкевіч | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА будзе справаздачна-выбарчым. Адбудзецца ён 8-га траўня а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага па адрасу:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

*Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.*

**Прыходзьце на сход, каб узяць удзел у выбарах кіраўніцтва аддзелу.**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*

# ПАДПІСКА

**на выданьні зь Беларусі на другую палову 2004 году.**

**З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:**

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 40 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | **Arche**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | **Дзеяслоў**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

**Для жыхароў Беларусі (для сваякоў і знаёмых)**

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 7 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 10 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі акрамя пералічаных у сьпісе. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: ***hazetabielarus@att.net***

***Заўвага:*** *газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*
***Падпіска працягваецца да 18 чэрвеня 2004 году.***
*Замовы й аплату сваечасова дасылайце ў рэдакцыі на адрас:*
***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі, калі ласка, выпісайце на імя **BIELARUS.***

## Наша фанатэка

# Эўрапейскі гук беларускай песьні

**"Аляксандра і Канстанцін" - "За ліхімі за марозамі", Мн., 2001, "Каўчэг".**

**"Аляксандра і Канстанцін" - "Сойка", Мн., 2003, "Master records".**




**Сёлета ў траўні ў Стамбуле пройдзе чарговы міжнародны фэстываль песьні "Эўрабачаньне", у якім упершыню прыме ўдзел Беларусь. З гэтай нагоды 31 студзеня 2004 году барысаўскі дуэт "Аляксандра і Канстанцін" стаў вядомы на ўсю Беларусь, бо пераканаўча перамог у першым за нашую гісторыю агульнанацыянальным адборачным туры "Эўрабачаньня". А перад тым?..**

Дзіўная ўсё-ж мы краіна, бо нават так званая дэмакратычная прэса ў нас (незалежныя газэты "Салідарнасьць", "Беларускі рынак", розныя інтэрнэт-парталы) неяк адразу знайшлі ў слушным выбары народа падставу для традыцыйнага тужлівага самаедзтва: маўляў, галасаваньне было "нячэсным", што зафіксавала адна буйная арганізацыя, хоць яе ніхто на тое і не ўпаўнаважваў. А рэальна: ці быў хоць хто з прэтэндэнтаў больш варты за дуэт "Аляксандра і Канстанцін" прэзэнтаваць беларускую песьню ў Эўропе з таго шэрагу, які нам дазволілі асэнсаваць. Рэч у тым, што прафэсыйнае журы яшчэ на этапе "кампэтэнтнага адбору" адсеяла ўсіх носьбітаў жывога нацыянальнага зьместу і каларыту (бліскучыя гурты "Юр'я" і "Tesaurus", менш вядомыя "Сваякі" з Гомельшчыны, Ганна Мушак з Магілева), а ўсіх астатніх прымусіла сьпяваць па-ангельску (відаць, каб пара пазасталых "нацыяналістаў" не адрозьніваліся ад паўтарох дзесяткаў тых, хто купляе свае "беларускія" песьні ў Маскве, Кіеве ды нават у ЗША). А вось пра такі "кампэтэнтны адбор" нешта ніхто не пісаў...

Але-ж во быў-бы прыкметны голас Беларусі ў Эўропе, калі выходзіць на сцэну гэткі англамоўны тотал-стандарт у касьцюмчыку, як на дзіцячым "Эўрабачаньні" - чырвоны верх, зялёны ніз і хоць зорачка на лбе, але двух словаў на роднай мове зьвязаць ня можа! Але народ у гэтым натоўпе шэрасьці ўсё-ж дагледзеў сваіх сапраўдных беларускіх Артыстаў.

Дуэт "А&К" пасьпеў выдаць (і прадаць) на той час два поўнафарматных беларускіх альбомы й вельмі шмат каму запомніўся яркім адметным іміджам і паважлівым стаўленьнем да нацыянальных традыцыяў. Калі ў той вечар я глядзеў па тэлебачаньні той адборачны тур, мне патэлэфанаваў сябра, знакаміты музычны крытык Анатоль Мяльгуй: - Нават іхняя кампазыцыя "My Galileo" ў гэтым парадзе шэрасьці была па-за канкурэнцыяй, - кажа, - але-ж у Кастуся Драпезы ды Аляксандры Кірсанавай ёсьць і больш геніяльныя гіты: "Арэхавая чаша" зь першага альбому, "Пчолка" з другога... Чаму яны ня выконвалі іх?

Я выказаў свае здагадкі наконт маскіровачнага адбору:

- Анатоль, ты-ж ведаеш, што гурт "Юр'я" падступна зьнялі толькі з-за таго, што адмовіўся перакладаць свой твор на English. Дый вядома таксама, што паводле рэальных умоваў конкурсу да разгляду прыймаюцца толькі раней не публікаваныя творы.

Цікава, што ўпэўненасьць у роднай песьні не *замінала* дуэту выканаць і дадатковыя прычэпкі мясцовага каляніяльнага журы: з ангельскай мовай у "А&К" таксама было лепш за ўсіх - як паводле вымаўленьня, гэтак і паводле лексыкі. Алеся не ператварала падобна іншым якое-небудзь "close your eyes, I need you" ў сьмешную на слых макаронщчыну кшталту "Анісы ў клязэце". Проста быў у яе досьвед эўрапэйскіх канцэртаў, а яшчэ і некалькі ангельскіх кавэраў (пераробак) у першым альбоме з рэпэртуару "Kelly Family", Луі Армстронга ды Дж. Дж. Кэйла.

Але аснова творчасьці калектыву - беларускі фальклёр з выкарыстаньнем модных экзатычных аранжыровак стылю кантры ды рэальна гістарычных для нас традыцыяў жаночага гарлавога сьпеву, якія прыйшлі на беларускія землі з Кітаю праз Індыю ў глыбокай старажытнасьці. Гэткі ўнікальны кактэйль, бадай, здольны шакаваць Эўропу, бо цалкам нязнаны там. Ды ў гэтым і задача дуэту "А&К", каб заваяваць права на працяг беларускага вяртаньня ў Эўропу.

Калі ў першым альбоме калектыву нацыянальная музычная прэса бачыла нават спробы беларусізацыі расейскага фальклёру (напрыклад, у песьні "Масьленіца"), дык другі (з бліскучымі творамі "Не шумі ты, гаю", "Явар" і асабліва ўшанаванае многімі фэстывалямі "Сена") вызначаецца большай трываласьцю, канцэптуальнасьцю, еднасьцю. Акрамя таго ў праграму другога дыску ўваходзіць і дадатковы мультымэдыйны трэк для кампутара з каляровым відэакліпам песьні "Пчолка".




Аляксандра Кірсанава ў гурце, акрамя сьпеву яшчэ грае на флейце, вурганах, вусным гармоніку, пэркусіях, а Кастусь Драпеза засвоіў гітару, домру, а нават і справу кампазыцыі ("My Galileo" акурат ягоны твор). Разам займаюцца аранжыроўкамі.

Гасьцёўна ў запісе альбому прыймалі ўдзел знакамітыя беларускія музыкі: гітарыст Віктар Малчанаў ("Песьняры"), скрыпач Карэн Карапецян ("Kriwi"), бас-гітарыст Юры Фядзюк ("Крама") ды іншыя. Запісваліся рэлізы ў лепшых беларускіх студыях - Белтэлерадыёкампаніі ды прыватнай студыі Генадзя Сыракваша "X-Noise factory".

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

**Каб замовіць гэтыя CD поштаю дашліце $12 за кожны на адрас рэдакцыі газэты "Беларус".**

## Новая кніга

**Бібліяграфія беларускага друку на Захадзе.**
Апрацавалі Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель
Ross Publishing Inc. Нью Ёрк, 2004. 150 с.

Гэта плён крапатлівай і шматгадовай працы др. Вітаўта Кіпеля і сьв. пам. Зоры Кіпель. Прыгожа выдадзеная, у цьвёрдай вокладцы, кніга дае пералік друкаванага набытку беларускай эміграцыі. Свайго роду калектыўнае бібліяграфічнае абліччa дыяспары "на захад ад Польшчы", як тлумачаць укладальнікі.

Кніга, апрача прадмовы й уступу (па-ангельску і па-беларуску) ды пасьмяротнай згадкі пра Зору Кіпель, мае два асноўныя разьдзелы:

1. пэрыядычныя выданьні па-беларуску (кірыліцай і лацінкай)
2. беларускія пэрыядычныя выданьні на іншых мовах.

Зьмешчаныя таксама ілюстрацыі вокладак чатырох часапісаў: "Iskry Skaryny" (Praha), "Kaharka" (лягер ДП), "Новые Жыццё" (Сыднэй) і "Полацак" (Кліўленд).

У канцы кнігі даецца вельмі патрэбны, асабліва дасьледнікам у Беларусі, "Слоўнік скаротаў, ужываных у беларускім эміграцыйным друку" (галоўна назовы арганізацыяў).

Ва ўступе сказана: "Пад тэрмінам "Беларускі друк на Захадзе" разумелася друкаваная прадукцыя, якая стваралася беларусамі, беларускімі арганізацыямі, цэрквамі, установамі ў беларускай і не беларускіх мовах (ангельскай, нямецкай, француззкай і інш.). У панядку "Беларускі друк на Захадзе" ўлучаліся гэтаксама друкі-кнігі, лістоўкі, падручнікі, якія стваралiся-друкаваліся небеларускімі ўстановамі, арганізацыямі, асобамі небеларускага паходжаньня, але якія маюць значаньне для беларускай культуры й нацыі. Прыкладам, лісты-дэкрэты-пасланьні Папы Рымскага ці Канстантынопальскага Патрыярха, дзяржаўныя друкі Кангрэсу ЗША ці Міжнароднае Лігі Правоў Чалавека, якія тычацца Беларусі."

На пачатку кнігі зьмешчаны пералік бібліятэкаў дзевяцёх цэнтральна- і ўсходне-эўрапейскіх кранаў, у галоўныя бібліятэкі якіх ад імя сям'і Вітаўта й Зоры Кіпеляў будуць высланыя асобнікі гэтай бібліяграфіі. У Беларусі названыя 19 бібліятэкаў, у тым ліку абласныя і ўнівэрсытэцкія.

*(Я.З.)*

# Кошт візаў

Зь 1 траўня краіны-суседзі Беларусі, якія ўступаюць у Эўразьвяз, уводзяць новыя правілы ўезду на сваю тэрыторыю для беларусаў.

Найбольш сур'ёзныя зьмены прынялі ўлады Польшчы. Цяпер іншаземец, які ўяжджае на тэрыторыю Польшчы, павінен мець фінансавыя сродкі для аплаты за пражываньне, харчаваньне і праезд. У суме 100 злотых на кожны дзень знаходжаньня, аднак агулам не менш чым 500 злотых - для асобаў, якім больш за 16 гадоў. Тым, каму менш за 16 гадоў, трэба мець 50 злотых на кожны дзень знаходжаньня і 300 злотых у агульнай суме. Дакумэнтамі, якія пацьвярджаюць наяўнасьць фінансавых сродкаў, могуць быць: падарожны чэк, крэдытная картка, даведка пра наяўнасьць грошай ў польскім банку, альбо арыгінал запрашэньня".

Пры ўезьдзе ў Польшчу зь 1 траўня беларусы павінны таксама мець мэдычную страхоўку, альбо суму ў 300 злотых на кожны дзень магчымага лячэньня. Гэтую страхоўку можа замяняць арыгінал запрашэньня. Затое польскія візы для грамадзянаў Беларусі патаньнеюць удвая, аднаразовая польская віза будзе каштаваць 5 эўра, двухразовая - 8, і шматразовая - 24 эўра.

Візы ў Латвію для беларусаў, наадварот, падаражэюць. Аднаразовая віза будзе каштаваць 35 эўра, замест 20. І ўсе шматразовыя візы, у тым ліку й двухразовыя, паўгадавая, гадавая - будуць каштаваць 70 эўра. Гэта зьвязана з патрабаваньнямі Шэнгенскай дамовы, да якой Латвія зьбіраецца далучыцца ў 2007-м ці 2008-м годзе. На латвійскіх візах будуць зьмяшчацца каляровыя фатаграфіі атрымальніка.

Летува таксама зьбіраецца далучыцца да Шэнгенскага пагадненьня, але пакуль асаблівых зьменаў уезду ў гэтую краіну не адбудзецца. Ранейшымі пакуль застаюцца і нормы ўвозу ў Летуву алькаголю й тытуню.

*Радыё Свабода*

## Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў

*Працяг з бачыны 2*

жах гэтай кампаніі 28 красавіка ў Менску ЗБС правёў бясплатны студэнцкі рок-канцэрт "ROCK'by". У ім удзельнічала больш за 300 студэнтаў з розных навучальных установаў. Перад студэнтамі выступілі 7 гуртоў з ВНУ Менска, Магілёва і Горак.

"Дэкларацыі правоў студэнтаў" будзе разгледжаная, дапрацаваная і зацьверджаная на канфэрэнцыі па правох студэнтаў, якую ладзіць ЗБС 15-16 траўня ў Менску.

ESIB выказаў пратэст умяшальніцтву КГБ у дзейнасьць Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, як яўнаму шляху да парушэньня студэнцкіх правоў. Напрыклад, 14 красавіка сябра Рады ЗБС Сяржук Семянюк быў выкліканы ў дэканат, дзе два чалавекі, якія прадставіліся супрацоўнікамі Камітэта Дзяржаўнай Бясьпекі, зладзілі допыт аб дзейнасьці арганізацыі й грамадзкай дзейнасьці Сяржука ў прыватнасьці. (Прэс-рэліз ЗБС ад 14.04.2004)

Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў будзе працягваць абараняць правы студэнтаў у Беларусі і спрыяць рэфармаваньню сыстэмы вышэйшай адукацыі, прыцягваючы як уласныя рэсурсы, так і досьвед і дапамогу эўрапэйскіх партнэраў.

*ЗБС*

**Даведка.** ESIB - арганізацыя, якая прадстаўляе і абараняе навучальныя, сацыяльныя, эканамічныя і культурніцкія інтарэсы студэнтаў у Эўропе.

Сёньня ў ESIB 41 арганізацыя зьяўляюцца сябрамі, 4 студэнцкія зьвязы кандыдатамі й 2 кансультатыўныя сябры. Усе яны рэпрэзэнтуюць 10 мільёнаў студэнтаў з 35 краінаў.

Адной з асноўных функцыяў ESIB зьяўляецца прадстаўленьне інтарэсаў студэнтаў у іншых структурах эўрапэйскага ўзроўню, такіх як Эўрапэйская Асацыяцыя Ўнівэрсытэтаў (EUA), Савет Эўропы, Эўрапэйская Камісія, Эўрапэйскі Парлямэнт, UNESCO, у нацыянальныя ўрады і г. д. ESIB зьяўляецца асноўным дарадцам эўрапэйскіх структураў ва ўсім, што тычыцца студэнтаў у Эўропе.

Беларусь у ESIB з 1997 года прадстаўляе Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў.

Поўная інфармацыя пра ESIB на староньцы ***www.esib.org***

# Валянціна ПАШКЕВІЧ

## 05.02.1916 - 25.03.2004



25 сакавіка 2004 году перастала біцца сэрца беларускага пэдагога, грамадзкае і на ніве культуры няўтомнае дзяячкі Валянціны Пашкевіч. Усё сваё жыцьцё прысьвяціла яна працы, накіраванай на дасягненьне ідэалаў Акту 25 Сакавіка, і 25 сакавіка памерла.

Валянціна Пашкевіч нарадзілася 5 лютага 1916 году - у дзень сьмерці Алёйзы Пашкевіч-Цёткі - у беларускай сям'і Міколы й Надзеі Жукоўскіх, радавітых пружанцаў Берасьцейшчыны. Ад калыскі да апошняга дыханьня Вялянціна была носьбітам жывое беларускае мовы. Сям'я Жукоўскіх была нацыянальна сьведамая. Бацька яе Мікола атрымліваў зь Вільні беларускую літаратуру - каляндары, газэту "Крыніца" ды іншую пэрыёдыку - і чытаў яе для ўсяе сям'і ўголас. І сілаю рэчаў узгадоўваў і перадаваў дзецям свой беларускі патрыятызм.

У Пружанах Валянціна закончыла польскую, бо беларускіх школаў у Пружанах не было, пачатковую і сярэднюю, школы, гімназію. На заканчэньне сямігодкі, пачатковае школы, яна, як найлепшая вучаніца, атрымала ўзнагароду: том нямецка-польскага і польска-нямецкага слоўніка. Тады яна не здавала сабе справы з таго, што ейная ўзнагарода была свайго роду прароцтвам. Пачынаючы дзесь з пяцідзесятых гадоў свайго жыцьця яна праз 25 гадоў пільна працавала над складаньнем ангельска-беларускага слоўніка. Але гэта ўжо пасьля ў Таронта, Канада.

У 1935 годзе пасьля заканчэньня гуманістычнага тыпу польскай гімназіі Адама Міцкевіча ў Пружанах Валянціна, тады Жукоўская, паступіла на факультэт клясыкі - грэкі й лаціны - мовы й культуры старажытнае Грэцыі й Рыму ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні. Адразу ўключылася ў буйнае ў той час беларускае жыцьцё Вільні. Сталася сяброўкаю Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Як сябра ўправы гэтае арганізацыі поўніла функцыю скарбніка. Наведвала лектарат беларусаведы др. Янкі Станкевіча. У Беларускім музэі імя Івана Луцкевіча ў Вільні, калі надаралася патрэба, поўніла функцыю правадніка.

Пасьля двух гадоў студыяў клясыкі, пераканаўшыся, што цікавыя навукі старажытных моваў і культураў у жыцьці могуць быць непрактычнымі, бо лаціну і грэку перасталі вучыць у сярэдніх школах, яна перайшла на факультэт фізыка-матэматычны.

У верасьні 1939 году Заходнюю Беларусь акупавала савецкая Расея. Сталін адрэзаў Вільню - сэрца Беларусі - ад беларускае нацыянальнае тэрыторыі й аддаў яе Жамойці (Жмудзі). У восені, калі беларускім студэнтам прыйшоў час ехаць на ўнівэрсытэт на навуку, Кацярына Стаўбунік, ведамая беларуская дзяячка, дзякуючы якой у Пружаншчыне, Кобрыньшчыне, Піншчыне пашыралася беларуская літаратура зь Вільні, а зь ёю і беларуская сьведамасьць, сабрала нас усіх беларускіх студэнтаў з Пружаншчыны й сказала: "Дзеці, цяпер ня час на навуку. Усім вам трэба ісьці ў школы выкладаць беларускую мову. Інакш у школах Пружаншчыны беларускае мовы ня будзе." І так па адным беларускім студэнце зь Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні Кацярына Стаўбунік паслала ў школы Пружаншчыны выкладаць беларускую мову. Валянціну Жукоўскую, як найвыдатнейшую, накіравала ў былую польскую гімназію Адама Міцкевіча. І так Вялянціне Жукоўскай давялося быць выкладчыцай беларускай мовы й літаратуры ў гімназіі, дзе яна раней сама вучылася. Апрача працы ў сярэдняй школе яна была выкладчыцай беларускае мовы й на курсе для настаўнікаў - колішніх сваіх прафэсароў. І тут яна пераканалася, як бясцэннымі аказаліся ёй студыі на філялягічным факультэце грэкі й лаціны.

Валянціна заўсёды была абаронцам беларушчыны. Калі ў 1939 годзе саветы занялі Пружаны, іхныя камандзіры-палітрукі сталі хадзіць па хатах. Вось першаму камандзіру, які зайшоў у нашую хату і пачаў гутарку, зь якое вынікала, што ён беларус, Валянціна з абурэньнем і прэтэнзіяй у голасе паставіла пытаньне: "Чаму дапусьцілі да рэформы-зьнішчэньня беларускае мовы ў 1933 годзе?!" Палітрук нічога не адказаў, толькі глядзеў шырока адкрытымі вачыма на абурэньне маладой жанчыны.

Як шматлікім сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, так і Вялянціне Жукоўскай наканавана было пакінуць Беларусь. У другой палове 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя яна ў Ангельскай зоне акупацыі Нямеччыны ў беларускім лягеры ДП Ватэнштэце выкладала ў Беларускай гімназіі фізыку і апрача таго праз некаторы час была кіраўнічкаю - сьцяжнаю - беларускага жаночага скаўтынгу. Цяперашнія беларускія дзяячкі й патрыёткі ў замежжы: Лёля Міхалюк, шматгадовая старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Вера Бартуль у Нью Ёрку, Кацярына Вініцкая ў Лёс Анжэлесе - гэта гадунцы Валянціны Жукоўскай, вучаніцы Беларускай гімназіі й скаўткі.

Зь ліпеня 1949 году Валянціна ў Таронта, Канада. Як сяброўка Згуртаваньня Беларусаў Канады на 2-м Зьезьдзе гэтае арганізацыі ў траўні 1950 году поўніць функцыю Сакратара зьезду, дакумэнтуе важную падзею першае беларускае арганізацыі ў Канадзе.

У красавіку 1950 году Валянціна Жукоўская выйшла замуж за беларуса з Ашмяны Міхася Пашкевіча. Яны маюць двое дзяцей, Паўлюка і Эву, і дзьве ўнучкі Ларысу і Галіну. У 50-60-х гадох Валянціна Пашкевіч арганізатар і кіраўнік танцавальнага гуртка, які танцуе перадусім "Лявоніху" і "Крыжачок". Танец "Лявоніху" за савецкіх часоў Валянціна вучыла танцаваць і сваіх вучняў у былой гімназіі Адама Міцкевіча ў Пружанах. Песьня і танец "Лявоніха", як і беларуская мова, адрозьніваюць беларусаў ад расейцаў, украінцаў і балтаў. Ніхто апрача беларусаў "Лявоніхі" ня мае. Вось-жа нашая "Лявоніха" ў 50-х і 60-х гадох мінулага стагодзьдзя красавала ў выкананьні Таронцкага танцавальнага гуртка пад кіраўніцтвам Валянціны Пашкевіч. А ў 70-х гадох функцыю гэтую пераняла дачка Валянціны Эва Пашкевічанка.

Калі народжаныя ў Канадзе дзеці падрасьлі да школьнага веку, Валянціна Пашкевіч зарганізавала і праз 15 год сыстэматычна вяла беларускую суботнюю школку пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта. Апрацавала для сваіх вучняў "Першую чытанку пасьля лямантара для беларускіх дапаўняльных школаў". "Чытанка" выйшла друкам у Кліўлендзе ў 1968 годзе.

Валянціна, як пэдагог, разумела, што для навучаньня беларускае мовы ў чужым асяродзьдзі абавязкова патрэбны англямоўны падручнік беларускае мовы, якога дагэтуль нідзе не было. Над складаньнем яго яна год за годам пільна працавала. Рэдактарам падручніка быў сьветлай памяці мовавед праф. Антон Адамовіч у Нью Ёрку. У выніку Валянціна Пашкевіч аўтар англямоўнага падручніка "Беларуская мова - Fundamental Byelorussian" - адзінага сыстэматычнага і найбольш поўнага курсу беларускай мовы для навучальных мэтаў за межамі Беларусі. Падручнік апіраецца на правапіс Браніслава Тарашкевіча. Як у прадмове сказана: "Кніга мае служыць ня толькі падручнікам беларускае мовы для вучняў, што прайшлі ўжо беларускі лямантар, але таксама і дапаможнікам для настаўнікаў. Дзеля гэтага некаторы граматычны матар'ял у ёй уняты крыху шырэй, як гэта трэба было-б даць толькі для вучняў. Наагул, дадзены кароткі, але поўны, курс беларускай фанэтыкі й марфалёгіі." Два тамы падручніка "Беларуская мова - Fundamental Byelorussian" выдаў друкам у 1974 і 1978 гадох Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ў Таронта.

Працуючы над англямоўным падручнікам, аўтарка яго балюча адчувала неабходнасьць стварэньня ангельска-беларускага слоўніка, якога не было дзеля тых самых ведамых ганебных прычынаў, для якіх была праведзеная акупантам БНР у 1933 годзе рэформа беларускае мовы. Не было такога слоўніка нідзе.

І так закончыўшы працу над падручнікам Валянціна Пашкевіч узялася за складаньне слоўніка. Падрыхтавала яна вялікі (каля 50 000 словаў) "Ангельска-беларускі слоўнік", рэдагаваньнем і выданьнем якога заняўся Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў ЗША. Апублікавала яна таксама артыкул "Навучаньне беларускае мовы ў ангельскамоўным асяродзьдзі" (Запісы БІНіМ, 1987. № 17).

Пра Валянціну Пашкевіч ёсьць бібліяграфічная даведка ў Беларускай Энцыкляпэдыі (Мінск, 1994).

Дзеці яе, Паўлюк і Эва, калісь вучні беларускай суботняй школы, пішуць, чытаюць і размаўляюць пабеларуску.

Такая была пілігрымка жыцьця, і такую пакінула Валянціна Пашкевіч спадчыну для наступных пакаленьняў. Кіраўніцтва БІНіМ у ЗША назвала Валянціну Пашкевіч "узгадавальніцай маладога пакаленьня". Др. Янка Запруднік, які праводзіць рэдактарскую працу над "Ангельска-беларускім слоўнікам", падставу для якога дала Валянціна Пашкевіч, сказаў: "Слоўнік гэты будзе манумэнтам для яе".

Валянціна Пашкевіч з натуры зроўнаважаная умела ў розных абставінах утрымаць, ня раз з самавырачэньнем, раўнавагу і гармонію там, дзе жыцьцёвымі турбуляцыямі гармонія была нарушаная. Сп-ня Вольга Грыцук сказала, што Валянціна была асобаю годнаю быць прыкладам для іншых. Была Валянціна таксама асобаю, якую дарылі вялікаю пашанаю і бязьмежнаю любоў'ю.

Валянціна памерла, але душа яе жыве ў кожным, чыё жыцьцё яна сваім кранула, на каго зрабіла ўплыў, хто быў яе вучнем, хто браў зь яе прыклад, хто шанаваў і любіў яе. Жыве яна ў кожнай справе, у якую ўклала яна свае здольнасьці, сілы, сваю няўтомную працу, сваё сэрца і душу.

Вечная ёй памяць! А душы яе вечны супакой!

***Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ, сястра***



# Уладзімер ПЕЛЯСА

## (01.05.1918 - 24.04.2004)

Нарадзіўся ў горадзе Лідзе.

Вучыўся ў Віленскай Беларускай гімназіі.

Падчас акупацыі Беларусі Нямеччынай у час Другое Сусьветнае вайны браў удзел у працы Беларускай Самапомачы. У канцы вайны вымушаны быў пакінуць Бацькаўшчыну. У Нямеччыне жыў у беларускіх лягерох ДП, удзельнічаў у беларускім скаўтынгу. Пазьней перабраўся ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе жыў у Куїнсе ў Нью Ёрку.

Апошнія 30 гадоў працаваў у капаніі Atlanta Corgaration на Мангэтане апэратарам. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі й працы рэсорту Белэр-Менск у штаце Нью Ёрк.

Належаў да парафіі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, дзе выконваў абавязкі скарбніка царкоўнай управы. Нябожчык быў добрым вернікам і адданым патрыётам Беларусі. Заўсёды браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў ваколіцах Нью Ёрку.

Пахаваны на праваслаўных могілках у Маспэт. Абрад пахаваньня выканаў а. Васіль Андрэюк.

Пакінуў у смутку жонку і яе двух дзяцей у ЗША, а таксама трох братоў, дачку, унучку і праўнучку ў Беларусі.

Няхай яму будзе пухам амэрыканская зямля.

# Юбілей змагара за свабоду і незалежнасьць Беларусі

24 красавіка споўнілася 60 год **ЗЯНОНУ ПАЗЬНЯКУ**, без перабольшаньня найбольш значнай асобе найноўшай гісторыі Беларусі, заснавальніку сучаснага беларускага нацыянальнага руху, ініцыятару беларускага Адраджэньня 1980-1990-х гадоў, стваральніку Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", палітыку, які зь невялікаю колькасьцю паплечнікаў-дэпутатаў змог дабіцца ў 1991 годзе абвешчаньня незалежнасьці Беларусі тагачасным камуністычным парламантам, вярнуць беларускія нацыянальныя сымболі, паставіць яе на рэйкі нармальнага цывілізаванага шляху.

Зянон Пазьняк - найбольш пасьлядоўны, адкрыты, сумленны беларускі палітык. Незалежнасьць Беларусі, беларуская мова і культура, нацыянальныя гэрб і сьцяг як сымболі слаўнай гісторы і - Пазьняк ніколі ня здраджваў і не гадляваў гэтымі сьвятынямі. Пазьняк таксама - навуковец, фотамастак, паэт, аўтар шэргу кнігаў і фотаальбомаў, рэдактар часапісу "Беларускія Ведамасьці".

Імя Зянона Пазьняка ведамае хіба найлепей за ўсіх іншых палітыкаў Беларусі, і яно нікога не пакідае абыякавым. Яно таксама стала сымболем незалежнай Беларусі. Прызна ці варожа ставяцца да яго, але яно заўсёды ўздымае пачуцьці й пытаньні, зьвязаныя з будучыняй Беларусі, змушае думаць, змушае пераасэнсоўваць прайшоўшыя і бягучыя падзеі, заявы, учынкі.

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і беларусакай грамады Амэрыкі віншуем спадара Зянона Пазьняка зь юбілеем і жадаем здароўя, аптымізму і дасягненьня ўсіх мэтаў - палітычных і творчых.

# Дзень народзінаў знакамітай перакладчыцы

Сёлета вясною, 24 красавіка, дзень народзінаў выдатнай ангельскай перакладчыцы й вялікага прыяцеля і папулізатара Беларусі, сяброўка Англа-Беларускага Таварыства і Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў паэткі **ВЕРЫ РЫЧ**.

Адукаваная ў Оксфардзе, Вера Рыч яшчэ ў маладыя гады пазнаёмілася зь беларусамі ў Вялікай Брытаніі й захапілася беларускаю культураю, беларускім пісьменствам. Бярэ актыўны ўдзел у працы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), выступае ў ангельскіх пэрыёдыках з артыкуламі пра Беларусь. Славісты добра ведаюць ейныя пераклады зь беларускай, а таксама з украінскай моваў, артыкулы ў *"Times Higher Education Supplement"*, *"The Tablet"*, *"Science"*, *"Lancet"*, *"Index on Censorship"* ды шматлікіх іншых.

Вера Рыч выдала ў 1971 годзе фундамэнтальную анталёгію беларускай паэзіі ў сваіх перакладах - *"Like Water, Like Fire"* (George Allen and Unwin Ltd., London). Кніга, выдадзеная на замову ЮНЭСКО, была надрукаваная з нацыянальным гэрбам Пагоня на супэрвокладцы, што выклікала пратэсты савецкіх функцыянэраў. ЮНЭСКО паддалося ціску і дызайн вокладкі быў зьменены, але - надпіс з назваю кнігі атрымаўся бел-чырвона-белы, чаго Саветы не заўважылі.

Пераклады Веры Рыч зь беларускай паэзіі па-ангельску застаюцца і сёньня высокім стандартам, які яшчэ ніхто не пераўзышоў. Сп-ня В. Рыч таксама выдала кнігі перакладаў з паэзіі Гаруна, Бядулі, іншых паэтаў. Надрукавала кнігу пра вобраз гэбрая ў беларускай літаратуры.

Больш інфармацыі можна знайсьці на інтэрнэце: *http://www.belarus-misc.org/v-rich.htm#top*

Яна друкавала таксама пераклады з польскай, украінскай, стараангельскай і старанарвэскай моваў. Паэтка і перакладчыца працягвае сваю творчую працу і надалей займаецца журналістыкай.

Дай-жа Бог сто гадоў!

## Таронцкі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады

**запрашае на 26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.**

**У часе Сустрэчы будуць разглядацца пытаньні зьберажэньня культурных набыткаў, мовы й гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі.**

**Гасьцей будзе чакаць цудоўны канцэрт, выставы, паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа, новыя знаёмствы, экскурсія па Таронта, баль.**

**Больш падрабязна пра Сустрэчу будзе напісана ў наступным нумары газэты.**

**З пытаньнямі наконт разьмяшчэньня зьвяртайцеся да сп-ні Валянціны Шаўчэнка па тэл. (416) 444-0838.**

## ПОШУК СВАЯКОЎ

Унукі Еўфрасіньні й Елізаветы Фёдаравых шукаюць зьвестак аб ***Міколе сыну Пятра Федараве*** (Рындухове-Федараве), які нарадзіўся ў фальварку Кроткі Далгавіцкай воласьці Магілеўскай губэрніі ў канцы 19 ст. Быў афіцэрам, ваяваў на Першай Сусьветнай вайне. Меў жонку Вольгу і чатырох сыноў. Дакладна ведамыя імёны двух: Вадзім і Аліка. У час Другой Сусьветнай вайны перабраўся ў ЗША, жыў у Нью-Ёрку. Зьвязацца з намі можна па телефону у Менску **(172)50-62-57** ці праз нашых сяброў у ЗША **(314)434-6829**, альбо зьвяртайцеся праз электронную пошту: ***sfokine@yahoo.com***

Фонд **ДАР САКАВІКА** атрымаў наступныя ахвяраваньні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. Смаршчок | $ 1000 | І. Сурвілла | 100 |
| А. Субота | 350 | М. Чупракоў | 100 |
| Ю. і Л. Кіпель | 250 | А. Сёмуха | 80 |
| Я. і К. Вініцкія | 200 | А. і Г. Сапун | 80 |
| Згурт. Бел. Вялікабр. | 200 | С. Абламейка | 50 |
| Л. Кажан | 200 | Ю. Азарка | 50 |
| Б. Кіт | 200 | К. Бандарук | 50 |
| А. Лукашук | 200 | Л. Брылеўская | 50 |
| Н. Русак | 200 | К. Верабей | 50 |
| А. Орса-Романо | 150 | В. Дворнік | 50 |
| К. Романо | 150 | Ю. Дракахруст | 50 |
| Б. Андрусышын | 100 | М. Дэмковіч | 50 |
| Л. Дубовік | 100 | М. Занковіч | 50 |
| П. Дэмос | 100 | А. Знаткевіч | 50 |
| А. Занкавіч | 100 | А. Кабяка | 50 |
| Я. Запруднік | 100 | В. Караткевіч | 50 |
| А. Кажан | 100 | А. Коварава | 50 |
| Ю. Кажан | 100 | Т. Красоўская | 50 |
| М. Клакоцкі | 100 | Х. Нюнька | 50 |
| А. Махнюк | 100 | А. Радкевіч | 50 |
| С. Навумчык | 100 | В. Станкевіч | 50 |
| А. Протас | 100 | Г. Сурмач | 50 |
| А. Сільвановіч | 100 | | |
| Л. Стагановіч | 100 | | |

**Шчыры дзякуй!**

## Дапамога беларускай адукацыі

Беларускай адукацыі пільна патрэбная дапамога, каб даць адпор узмоцненаму наступу з боку антыбеларускага рэжыму.

**Шмат ахвярадаўцаў працягваюць даваць дапамогу штомесячна да канца школьнага году.**

Да іх далучыліся наступныя асобы: Віктар Едзіновіч, Уладзімер Цяліца, Зьміцер Грэцкі, Аляксандар Макарэвіч, Іна Букач, Ксенія Кудратава, Галіна Яшчанка.

**Большыя аднаразовыя ахвяраваньні прыйшлі ад Раісы Жук-Грышкевіч у памяць сьв. пам. Валянціны Пашкевіч і ад Язэпа Арцюха.**

Грамадзтва беларускай дыяспары запрашаецца далучыцца да гэтай акцыі! Усе ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць і дасылаць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі: **O. R. Cultural & Educational Foundation**, адрас: ***172 Mill Spring Rd, Manhasset, N.Y, 11030***

**Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэкламы кантактуйце рэдакцыю.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| К. Романо | 150 |
| К. і А. Мярляк | 50 |
| І. Ільчук | 40 |
| І. Багасай | 30 |
| Д. Васілец | 30 |
| М. Жыновіч | 30 |
| З. Левіт | 30 |
| А. Лунёва | 30 |
| С. Шыбалка | 30 |
| А. Сільвановіч | 25 |

**Заміж кветак на магілу Валянціны ПАШКЕВІЧ**

| | |
|---|---|
| В. Грыцук | 50 |

**Заміж кветак на магілу Янкі БАРАНА**

| | |
|---|---|
| В. Грыцук | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

Я пішу вершы. Магчыма, мая творчасьць зацікавіць Вашых чытачоў.

*Хто хоча ўспомніць родны край,*
*Натхненьня дзіўную скарбонку,*
*Як лес шуміць, журчыць ручай,*
*Адкрые хай маю старонку:*
***http://ab8vy.narod.ru***

З павагаю **Анатоль БАЛУЦЕНКА**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна:***
***БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
**Сусьветнае сеціва:** baza-belarus.org
***Падпіска $30 на год.***
***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by***
***BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***
***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар* ***Марат Клакоцкі***
*Падпіска* ***Сяргей Трыгубовіч***
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***
**© BIELARUS, 2003**
**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org
**ISSN 1054-9455**
***Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.***